ПЕРШАЯ
КНІГА
ПАЭТА



Раіса Баравікова

# РАМОНКАВЫ БЕРАГ



Раіса
Баравікова

# РАМОНКАВЫ БЕРАГ

ВЕРШЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1974



## Я — ДЗЯЎЧЫНКА НА ШАРЫ

Я — дзяўчынка на шары,
Што плыве у блакіце!
І палаюць Стажары
Нада мною ў зеніце,
І нікому не ў цяжкасць,
Я — нібыта пушынка,
Што трапляе ў бязважкасць,
Я — на шары дзяўчынка!
Шар вялікі, бязмежны
У здзіўленні я кратаю,
Быццам Белыя Вежы,
Быццам чорныя кратэры,
Горы ззяюць снягамі
І дымяцца абшары
У мяне пад нагамі.
Я — дзяўчынка на шары!

Заручуся з бясстрашшам
У густой сіняве,

Страціць як раўнаважжа,
Калі шар не дае?!
Ім адзіным сагрэта,
Не ўпаду, і не дзіва!
Пада мною планета,
Што мяне нарадзіла.

Я ж — дзяўчынка на шары!

## ІМГНЕННЕ

Усё адыходзіць, плыве у нябыт.
Мне час не стрымаць, не падоўжыць
імгненне.
Чырвоная іскра ляціць у блакіт,
Знікае, адчуўшы адно сутыкненне
З паветранай хваляй...

З будзённасці шэрай, нібыта з туману,
Расінкай празрыстай імкнуся
да сонца,—
А раптам я промень гарачы дастану
І зоркай заззяю хаця б на імгненне,
Каб знікнуць, адчуўшы адно сутыкненне
З пяшчотай зямною!

## З НАГОДЫ ВЫКРАДАННЯ ЕЎРОПЫ

*Згодна грэчаскай міфалогіі дачка фінікійскага цара Агенора — Еўропа была выкрадзена Зеўсам, які прыняў вобраз белага быка.*

Ноччу — чарней алівы,
Калі Фінікія спала,
З пеністых хваляў заліва
Белая з'ява паўстала —
Бык замест мудрага Зеўса!
Плач, Агенор! Нудзіся!
Цар, уладар і бацька.
Лёсу свайму скарыся
І захлыніся знянацку
Роспаччу, жалем і болем
На самым ружовым світанні.
Плач, Агенор! Ты болей
Не ўбачыш сваёй Еўропы —
На ўсю Фінікію адзінай.
Стане імгненне гадзінай,
А развітанне — ранай,
Бо рана, занадта рана...
Выкралі
Дачку Агенора — Еўропу!
Выкрала
Сэрца маё — работа!

Дазвольце данесці, людзі,
Да вас у хадзе таропкай
Той верш, што пачуцці будзіць
Словамі, клічнікам, кропкай!
Той верш, што нанізвае росы
На стромкія, гнуткія дрэвы
І шле у далёкую просінь
Вясновае раніцы спевы!
Выкрала
Сэрца маё — каханне!
Выткала
Роспач у ім — расстанне!
У самай блакітнай краіне
Нат смешна ад гэткай падзеі,
Кладзецца бялюткі іней
На песню маёй надзеі.
Выкраду
Сонца у яснага неба!
Выкую
З промняў гарачых сэрца,
Каб грэла маю работу,
Поўнілася пяшчотай...
А больш мне нічога,
Нічога,
Нічога
Не трэба!

* *

Ніколі парасона не насіла,
Не бегала дадому напраскі,
Калі юнацтва маладая сіла
Уперад гнала, як зямля расткі.

Я твар дажджам заўсёды падстаўляла,
Спакою не давала я нагам,
Жыцця без навальніцы не ўяўляла,
Крык радасці быў выклікам багам!

Я і цяпер ад гэтае прывычкі
Не адракаюся і долю не кляну!
Я пакідаю ў хаце рукавічкі —
Халодны снег далонямі лаўлю!

## СОНЦА

Жоўценькі зайчык
На дрэвах, на калодзе,
Што пад страхой
Стаіць.
Жоўценькі зайчык
На далонях...
Лаўлю асалоду
Ліпеня вуснамі —
Чароўна!
Срэбныя стрэлы
Б'юць у вочы,
Зажмурваюся...
Гэта — зайчык,
Зайчык на небе,
А назва яму —
Сонца!

* *

Прымае і шчасце і гора
Гарэзлівасць сонечных год.
Я сёння пабачыла мора,
Я сёння ў палоне прыгод.
Пад зоркай праменнай сваёю
На беразе светлым стаю,
Я з морам, і мора са мною
Падзелім удачу сваю.
Напэўна, адзінай на свеце,
Мне выпала праўда адна:
Стагоддзяў вялікасны вецер
Разгойдвае мора да дна.
Бушуюць грывастыя хвалі,
Хаваюць гады ў глыбіні
І тонуць у пеністым шквале
Нястройнаю музыкай дні.
Навошта іх столькі мінула,
Нібыта зусім не жыла,
Нібыта у сне прамільгнула
Узмахам чужога крыла!
Хай будзе і шчасце і гора,—
Бясконцасць ляжыць прада мной,
І сіняе-сіняе мора
Пра вечнасць гаворыць са мной.

* *

Забытая казка блукае па свеце,
Забытая песня па свеце плыве,
А як жа бадзяга-паэт на планеце
Без песеннай казкі жыццё пражыве?!

Давайце настроім пявучыя струны,
Пяшчотныя словы у сказы складзём,
Лясы, паплавы і далёкія дзюны
Уславім мы песняю радасных дзён.
Давайце паверым у добрую казку...
Прашу вас, маэстра, чакаюць усе...
«Кароль каралеве купальскую краску —
Пяшчотнае сэрца ў далонях нясе!..»

З'яўляецца казка, пяшчотай сагрэта,
Па-новаму песня струною звініць,
І сніцца паэту, нібы над планетай
Агромністым сонцам сэрца гарыць!..

* *

На вокнах папараць цвіце,
Халоднай зоркаю мігае,
І б'ецца жылка на руцэ,
І казка чуецца за гаем.
І прыпадае твар да шкла,
Ў чаканні цуда заміраю,
Я можа шчасце тут знайшла,
А мо няшчасце набываю?

Шчакой кранула шыбу я,
Адчула халадок пялёсткаў,
Ускрыкнула — ці ж не мая
У снежні папараць так порстка
Цвіце! На дзіва ўсім гарыць
На холадзе, аж дых займае?

Ды што гэта — вада цурчыць,
Струменьчыкам па шкле сцякае!

* *

Маё імя адыдзе ў Лету,
Адны радкі нагадваць будуць,
Што вельмі не любіла лета,
Казала — сонца мяне студзіць!
І што у снах сваіх гукала
Таго, хто быў найдаражэйшы,
І што з усіх шляхоў шукала
Шлях найдаўжэйшы, найцяжэйшы!
І што хавала за усмешкай
Тугу душы, самоту сэрца,
Што называлі сыраежкай
За тое, што нідзе сагрэцца
Ніколі не магла і зрэдку
Глядзела задуменна ў неба —
Няўжо нікому ў свеце гэткім
Я з цеплынёй сваёй не трэба?!

* *

І трэба ж здарыцца такому,
Вазок у Мінску — навіна!
Ляцяць, звіняць упарта колы...
Вось так праехаць — дабрыня!
Навыперадкі з часам, з лёсам...
Нібыта летні звонкі птах!
Як ветразь, локан мой бялёсы
Сябруе з самым чыстым плёсам,
Усё жыццё — крыла узмах!
Імчу!
        Лячу!
                Лясы наўкола!
Такая сінь, такі прастор!
Не лодка, а вазок на колах
У далячынь нясе, да зор!
Ах, як звычайнасць часам точыць!
Чакай!
        Трывай!
                Глядзі, паэт!
Каб незнарок табе не збочыць,
Зямля хадою шпаркай крочыць...
Спяшайся! Прад табою — свет...
І трэба ж здарыцца такому,
Імчу, як вецер веснавы...
Ляціць вазок, нясуцца колы,
Крычу жыццю: «Іду на Вы!»

## ВОСЕНЬ, 1918...

Нібыта з пэўнае нагоды,
Вятры раз'юшана раўлі.
Чакалі сонечнай пагоды
(І хваляваліся народы),
Крычалі ў небе жураўлі.

Упершыню халодны вырай —
Разбой і голад... Апрача
Таго, што палымянай лірай
Гучалі словы: Хлеба! Міру!
Святыя словы Ільіча!

Звінелі ў грозным небе хмары
Цяжкой свінцоваю журбой,
Атрады коннікаў скакалі,
Бадзёра «яблычка» ігралі,
Шалёна кідаліся ў бой.

Ўставала сонца за ракою,
І на разбуранай зямлі
Складалі залпы гімн спакою,
Каб зараз, дружа, мы з табою
Спакойна на зямлі жылі!

* *

Усё мінулае — радасны водгук,
Усё мінулае — ціхая плынь.
Прыпынілася крыху воддаль
Ад жыцця, як ад вёскі млын.
І стаю на бязлюдным узгорку,
Бачу лес прад сабой малады,
Пад нагамі калышацца горкі
Палыновы дыван залаты.
Углядаюся ў сінія далі,
І здалося, магчыма, мне,
Што бярозкі удзвюх стаялі,
Абдымаліся ў дзіўным сне.
А ў высокім бяздонні чыстым
Нада мной журавы плылі,
Так прыгожа ў спакоі ўрачыстым
Аддаляліся ад зямлі!
Ў промнях сонца плылі над палямі
Белакрылыя птушкі, але...
Нібы песня мая з журавамі
Раставала ў далёкай імгле.

## ДА ЖЫЦЦЯ

Пераплялося карэнне,
Як мы з табою, мой лёс!
Колькі розных здарэнняў,
Колькі гора прынёс
Ты мне...
            Я — дзівачка,
Чагосьці чакаю яшчэ!
Водзіць вывадак качка...
Пад камень вада не цячэ
І ўрэшце — адна!
Чаканні, здарэнні,
То ўверх, то ўніз...
                        Ах, жыццё,
Хто сказаў, што слабое
                              карэнне?!
Лёс мне дорыць жыцця
                              пачуццё!

* *

... Народжаны ў спакоі цішыні шукае,
Бяжыць ад тлуму, прапануе ўсім
Куточак раю за зялёным гаем.
Ды дзе той рай? Аднолькава зямля,
Адны складанасці, а проста не выходзіць.
Растаяла ў часе цішыня,
Зайздрошчу тым, хто ў мітусні
знаходзіць
Свой рай і верыць светламу кутку...
Хто ведае, што будзе там — за гаем?!

Я — аптыміст, я мроіць не магу,
Знайсці свой рай у будзённасці жадаю!

* *

Пазбегчы гутарак і спрэчак...
Вясковы конік вараны,
Вязі мяне да звонкіх рэчак,
Дзе вінаград і кавуны!

Празрыстай ранішняй сінечы
Хачу даверыцца душой...
Адчуць, як увабралі плечы
Зямную мудрасць і спакой.

* * *

Я думаю, гады праходзяць!
Такая доля ўжо мая —
Здзіўляюся — усе знаходзяць
Усё тое, што губляю я!
Даверліва адкрыўшы вочы,
Углядаюся у кожны твар
І моцна веру, што аднойчы
Пазбаўлюся уяўных мар.
Упэўнена, што прыйдзе ў сэрца
Сапраўднасць думак, пачуцця,
Даволі цешыцца і грэцца
Святой наіўнасцю жыцця.
Нарэшце, я змагу астынуць,
Цвяроза паглядзець ў акно...
З сабой пакінуць і адкінуць,
Як баба з кроснаў палатно,
Сваё заўсёднае здзіўленне...

Я думаю, гады праходзяць!
Такая доля ўжо мая —
Здзіўляцца!
                Верыць!
                                Спадзявацца,
Што некалі знайду і я!

## ФАРБЫ

Усцяж дарогі чорныя крыжы,
Усцяж дарогі белыя рамонкі.
Пунсовыя адценні на шашы,
То ціхі шэпт, то водгукі гамонкі.
Раптоўны крык...
Пунсовага няма!
Прырода нікне, гіне фарбаў безліч,
Але вядуць чырвонага каня
Для чалавека, што ступае безвач.
Стаю, гляджу ўтрапёна на шашы,
На месцы слупянею, зрок губляю...
Чаму, чаму мне белыя крыжы
Ўсё чорныя рамонкі ў твар
шпурляюць!

* *

Хлопчык змея запускае ў неба,
Першае дзяцінства адкрыццё!
Хлопчык, любы, можа, так і трэба
З папяровым змеем — у жыццё!
Хлопчык, любы, радасць не затойвай,
Моцна нітку у руках трымай,
Колькі хочаш на гары прастойвай,
Колькі хочаш змея запускай.
Запускай! Бо рознае бывае,
Ты не ўгледзіш — дасць жыццё адбой...
Толькі ўявіш — птушкаю лунае,
Хлопчык іншы ў неба запускае
Светлай марай змея над сабой!

* *

За сябровак сваіх сталейшая,
Больш пачула і больш пабачыла!
Не па ўзросту свайму старэйшая
Ці ж такое прадбачыла?
На світанні сцежкай калючаю
Нагамі чабор прымінала.
Плач жа, сэрца маё балючае,
Ці ж гэтага ты чакала?
Дзяўчына з вачамі блакітнымі
На Яна збірала руту.
Палацам ішла малахітавым
І з вуснаў піла атруту.
Пацалункі, абдымкі гарачыя,
Гаркаватыя, аж салодка...
Летуценнасць мая дзіцячая
Прамільгнула бліскучай плоткай.

# ВОСЕНЬ НА ПРЫЗБУ СТУПІЛА

1

Пастукаў кастрычнік нячутна ў акно,
І восень на прызбу ступіла.
Лугі і лясы яна фарбай адной —
Агнём залатым апаліла.
На ўзгорку — дубы...
Іх далёка відаць!
Штось бабіна лета прарочыць.
На беразе рэчкі бярозы гараць...
А восень далей ужо крочыць!

2

Лісце думкамі дзявочымі злятае,
Лісце словамі шапоча пад нагамі.
На азёрным люстры залатая
Восень разыходзіцца кругамі!
Сёння ні аб чым я не шкадую,
Страшна мне спакой зямлі парушыць,
Сёння я не плачу, не сумую,
Толькі б з месца гэтага не зрушыць,
Толькі б не пазбавіцца спакою.
Цішыня пануе ў маім сэрцы.
Восень клапатліваю рукою
Запрашае да сябе пагрэцца.
Лісце прад вачыма кружыць, кружыць...

Восень золата пад ногі сцеле,
І да болю сэрца маё сушыць,
І цяпло ўлівае ў маё цела.
Ты мяне не ведаеш такую —
Ціхую, спакойную на дзіва!
Сёння ні аб чым я не шкадую,
Усё жыццё да восені хадзіла б!

3

На дрэвы ўпала пазалота-чырвань,
Глядзіць сляпое сонца з вышыні!
З якой журботай цягнуцца у вырай
Панурыя птушыныя кліны!

Гляджу, гляджу ў блакітнае бяздонне,
Паветра слепіць звонкасцю сваёй.
Мой голас промнем зіхатлівым тоне,
Вясёлкай восень ззяе нада мной!

# РАМОНКАВЫ БЕРАГ

І сумна мне... Ў апошнія часы
Гарэза-Муза мною не абрана!
З трывогай адчуваю — на басы
Мяняю сваё тонкае сапрана.

А сэрца абяцала мне спяваць,
І мроі так вярэдзілі дачасна!..
Чужыя песні квеценню шумяць,
Чужая Ліра апявае шчасце!

Як неўпрыкметку сталасць абняла,
Не з вершам — з прозай сталі
пабрацімы!
У сэрцы песня выспела адна —
Рамонкавы бераг Радзімы!

## ДОМА

Люблю у суботу быць дома,
Глядзець, як клапоціцца маці.
Ці бульба у печы гатова,
Ці проса сыпнуць кураняці?!

А к вечару ў вёсцы, вядома,
За пунямі лазні курацца.
Як хораша прыцемкам дома
Гарачаю парай абдацца!
Прайсціся сцяжынкаю простай
У золкім тумане, а потым
Падгледзець, як парыцца порстка
У воблаках месяц употай!

* *

На Беларусі ціха плачуць кані,
Гудуць над канюшынаю чмялі.
Паслухайце, якая з мяне пані,
Напэўна, не за тую прынялі!

Мазурка ножкай шпаркаю сваёю
Трывожыць і прыцягвае мой зрок,
Кілішак мёду кропляй залатою
Спакусліва мігае неўзнарок!

Мы вечарам гуляем па Лазенках
І сочым за вавёркамі здаля,
Прабачце, што ў блакітных маіх
зрэнках
Адлюстравана іншая зямля!

Вясёлы смех ды перастук абцасаў,
Калі здаецца палубай зямля!
Калі зацягнуць хлопцы гучным басам:
«Калінка-малінка мая!»

Прабач, прабач, гасцінная краіна,
Прывольна і ў тваіх палях чмялю.
Ды толькі я — вясноваю калінай —
Глыбока урасла ў сваю зямлю!

## НАША ВЁСКА

Наша вёска такая ціхая!
Хоць да сэрца кладзі!
Сонца ліпенем дыхае,
Цішыня на Друці.
Над жытамі не лётае
Ні аса, ні пчала,
Бусляняты не клёкаюць
Над садамі сяла!

Наша вёска такая ціхая!
Ў ёй і певень маўчыць!
Сэрца тоненька цікае
І імкнецца уцячы.
Вечарамі хаваецца
У чарот, у аер...
Цішыня разліваецца
І па сэрцу. Павер —
Усё роўна прыцягвае,
Усё роўна лячу...
Голас ціха выцягвае:
Прапісацца хачу
Ў цішыні...

* *

Не ведаю я, з чым мне параўнаць
Усё, што Беларуссю называюць!
Не ведаю я, як жа мне назваць
Той край, дзе «рэчку-рэчаньку»
спяваюць!
Дзе ладзіць вуды хлопчык у цішы,
Пад звонкі спеў старога Сожу хваляў,
Што ўзрушылі да глыбіні душы
І назаўжды яго зачаравалі!
А як жа сэрцу гулкаму маўчаць,
Калі вакол такая сінь нябёсаў!
Ад рання ў полі трактары бурчаць,
Трывожачы спакой Дняпроўскіх плёсаў.
Пралескі на прагалінах лясных
Галовы свае звонкія схілілі.
Здаецца, дастаткова іх адных,
Каб цуды Беларусі паланілі!
А давядзецца мне сказаць:
«Бывай!»
Калі пакліча дальняя дарога,
Я ў сэрцы захаваю гэты край
З бяляваю бярозкай ля парога.

* *

Прыводзяць шляхі-дарогі
Да Белай Вежы на ўзлессі!
Як да бацькавага парога
Іду да цябе, Палессе!
Сумую — мой лёс-гарэза
Выносіць на хвалях хуткіх
У чысты да слёз бярэзнік,
У царства алешын гнуткіх.
Бывала ў далонях люляла,
Тулілася целам гарачым,
Рамонкам заўсёды ўяўляла
Цябе ў летуценнях дзіцячых!
І бегла, дзе жыта радзіла,
Збожжа насіла ў вядзерцы,
Іду да цябе, Радзіма,
З матчынай песняю ў сэрцы!

* *

На Ясельдзе маёй зноў крыгаход,
У хвалях сініх плёскае вясна.
Сюды я завітала мімаходзь
І ўбачыла тут лодку без вясла...

Дзіравая, закінута людзьмі,
Ушчэнт пасохла ад праменняў сонца.
Ёй не заплакаць горкімі слязьмі.
А крыгі ўдалячынь плывуць бясконца!

І нешта абрываецца ў грудзях,
У хвалях шумных лодку тую бачу,
Як добра, што вось тут, не на людзях
Бяду той лодкі з горыччу аплачу!

Як добра тым, хто лодку абышоў...
Адна стаю у вербавых карчах.
Рака заціхла, крыгаход прайшоў,
А лодка праплывае у вачах!

## ДЗІМІТРАЎСКІ ПРАЕЗД

Я праезд Дзімітраўскі міма праязджаю,
Барвы ранняй восені ў цішыні прысад.
Птушкаю лясною ў думках я лунаю,
Птушкаю лясною я лячу назад.
Кажуць, не бывае і часіны горшай,
Калі шчасце раптам знікне, прападзе!
Зноў успамінаю аб далёкай Оршы,
Аб кругах блакітных на рачной вадзе.
За акном у танцы ліст пажоўклы
кружыць,
І зіма здалёку голас падае,
І праезд Дзімітраўскі залатыя грушы
На ўспамін аб восені прадае!
І праезд Дзімітраўскі на ўспамін
аб Оршы
Песню верасовую мне пяе.

## МАЛЕНЬКІМ ПАРТЫЗАНАМ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

*Памяці юнага піянера-героя Марата Казлова*

1

Прыціхлі ў стоме звонкія паляны...
У гушчары заглух апошні бой,
Па вузкай сцежцы крочаць партызаны,
Акраец хлеба дзеляць між сабой!
А з імі хлопчык...
Сціснуў вусны ўпарта,
Ў руках трымае зброю — аўтамат!
Разведчык ён, і на заданне заўтра
Адправіцца на досвітку Марат!

2

Цвіце чабор.
У полі спее жыта.
Прыемна сцежкай роснаю ісці.
Яшчэ не ўсё Маратам пержыта,
Яшчэ не зведаў многага ў жыцці.
Нядаўна марыў аб сябрах, аб школе,
Аб будучым, дзе думкамі вітаў,
Ці мог ён думаць, што такое гора
Ўпадзе на родны незабыўны край!

3

Ідзе хлапчук.
На сонца паглядае.
Пяшчотна песняй лес шуміць над ім...
Ці мог ён ведаць,
што яго чакаюць,
Ці мог адчуць,
што вораг побач з ім?
Спяваюць птушкі.
Шапацяць рамонкі.
У голлі рыжых, выцвілых асін
Так бесклапотна песцяцца вавёркі...
І раптам: «Стой!
Ці не Казлова сын?»

4

...Схапілі!
Павялі да крайняй хаты!
Няўжо не ўбачыць хлопчыку зямлі,
Той, за якую гінулі салдаты,
Той, дзе таполі гонкія раслі!..
Маўчаў хлапчук!
Ні слова, ні паўслова
Не выпытаў ў яго пракляты кат.
Прад позіркам плылі —
матуля, школа...
Яны малілі: «Патрывай, Марат...»

5

Так і загінуў...
Красавала жыта,
Цвіла прырода ў сонечных вянках.
Яшчэ не ўсё Маратам пражыта,
Ён будзе крочыць
як жывы ў вяках!
Спяваюць птушкі!
Шапацяць рамонкі,
Зямля пад сонцам росная ляжыць.
Прыслухайцеся, гонкія сасонкі,—
Тут недзе хлопчык сцежкаю
бяжыць!

* * *

Тэлефонную трубку вешаю —
Чакала адказу інакшага!
Але зноў сустракаюся з вежаю,
Белаю Вежай па-нашаму!
Над Астанкіным вечар свеціцца,
Ён у фарбах не мае межаў...
Як да сэрца, да яснага Месяца
Падступаецца Белая Вежа!
Удыхаю паветра свежае
І дадому спяшаюся пешшу я...

Не Масквою іду — Белавежжу,
Белай Вежаю, Белай Вежаю!

## ПАСТУШКА

Я сёння пастушка,
Я статак пасу!
Блакітная стужка
Ўпляцецца ў касу.
Прылашчацца промні
Да белай рукі,
Сцяжынкаю роўнай
Пайду да ракі!
Пагутару з хваляй,
Кароў напаю,
Хай людзі пахваляць
За працу маю!
Я сёння пастушка,
Я статак пасу,
Што ветразік, стужка
Ўпляцецца ў касу!

## ГРАМНІЦЫ

Грамніцы прыйшлі, грамніцы!
Напіўся певень вадзіцы.
Снягі на лугах пацямнелі,
На поўнач вятры адляцелі!

Грамніцы прыйшлі, грамніцы!
Вясну сустракаць маладзіцы
У хустках квяцістых выйшлі,
Са стрэх, нібы спелыя вішні,
Коцяцца долу слязінкі —
Плачуць на сонцы ільдзінкі!

Хай снег пад нагамі хрусткі,
Паскрыпвае, нібы масніцы!
Скідайце, жанчынкі, хусткі,
Грамніцы прыйшлі, грамніцы!

* *

О, як самотна выглядае ціш...
За вокнамі, абмытымі дажджамі!
Здаецца, доўга некуды ляціш
І водзіш абыякава вачамі!

Мне б зараз на лужок, дзе пар сівы,
Прабегчыся па свежай жоўтай пожні,
Калі на небе маладзік крывы
Перадсвітальны робіць круг апошні!

На рэчку б мне ды пранікам паплёскаць,
Дзіця ў калысцы пагайдаць сваё —
Блішчыць і вабіць белаю палоскай
Імкненне немагчымае маё!

* *

Валіць снег, як пасталы,
Так у вёсцы кажуць.
Перад тым, як на сталы —
Ежу доўга смажаць.
Ў печцы бульба, ў печцы сыр —
На полудзень будзе.
Пад нагамі снег, як жвір,
Што мінула — будзіць!
Пугай, пугай па каню,
Бомы па-над дышлем,
Не казаў бы даганю,
Можа б, што і выйшла!
Гэй, мяцеліца, круці,
Гэй, гудзі, вятрыска,
Мне б дабрацца да Друці,
Там і вёска блізка!
Валіць снег, як пасталы,
Завіруха вее,
Падавайце на сталы,
Расчыняйце дзверы!

# ЖАЛЕЙКА

Я паеду ціхім ранкам,
Не падаўшы вам рукі.
А прачнуся дзесь на ганку
Ля халоднае ракі.
Выйдзе ўсё неспадзявана —
На прасторы, у лугах
Дзеда ўбачу раным-рана
З чарацінкаю ў руках...
Ён спускаецца з пагорка,
Бабам жалю надае,
Вельмі тонка, вельмі горка
Чарацiначка пяе.
Як віхурацца аблокі!
Я за песняю бягу,
Мне б цяпер пусціцца ў скокі,
Ды, на жаль той, не магу.
Водзяць коні вострым вухам,
Вецер цешыцца ля ног,
Тапалёвым лёгкім пухам
З рання свеціцца мурог!
І па тых сумётах белых,
То ў гуморы, то ў бядзе...
Дзед ідзе, як па кудзелі,
З чарацінкаю ідзе!

* *

Мне не хапае тых шумных вуліц,
Усё часцей па Маскве сумую!
Зялёны лес цішынёй атуліць,
І я — вандрую!

Даўно забыты прывід сасніцца,
Знаёмы ў думках мне пасміхнецца,
Засвішча тонка дзесьці сініца —
Душа кранецца!

Антэны ў неба ўзбягаюць гонка,
Святло вясёлкай у вокны льецца,
Зашэпча з ветрам калі сасонка —
Сэрца заб'ецца!

Я ўсё сумую, я ўсё вандрую,
А дзесьці плошчы далёка ззяюць,
А дзесьці людзі песні спяваюць,
Мне не да іх,
У далонях тваіх
Так хораша, Беларусь!

* *

Мне сёння прыснілася хата...
У ёй мы калісьці жылі!
Вясною там бэзу багата,
Звіняць над лугамі чмялі.
Праз сон я ў маленства глядзела,
Ў туманны, сівы вербалоз,
Я зноў святкавала нядзелю
Ў зацішку знаёмых бяроз!
Шумелі за хатаю сосны,
І стукалі промні ў акно.
Малою на ўзмежачак росны
Спяшалася слаць палатно.
За вокнамі стукалі колы,
Зарою палаў далягляд,
І плакала я, бо ніколі
Туды не вярнуся назад.

* *

*Маці*

Ты не глядзі з трывогай на мяне
З бязгучнага сямейнага партрэта...

Ўсё думаеш, мо шчасце абміне
Тваю дачку, мо будзе не сагрэта,
Зусім адна, далёка на людзях
У горадзе вялікім і вядомым.
Хаваеш сум у стомленых грудзях —
Няхай бы з'ела пернічак мядовы,—
І прыцемкам уявіш у хадзе,
Хусцінка мая ветразем бялее...
Відаць была, ды не ў адной бядзе
І у трывозе сэрцам сваім млееш.
Але дарма клапоцішся, дарма...

Дачкі няма. Пайшла яна — у людзі!
Халодная каменная сцяна
З тваім партрэтам успаміны будзіць!

* *

А за вёскай дымяцца снягі!
Завіруха буслікай клёкае
І вядзе прадчуванне тугі
У дзяцінства маё далёкае!
Заміраю! І зноў, як раней,
Уяўляю хаціну нізкую,
Вельмі смачны з капустай алей,
Уся сям'я — над адною міскаю...

А за вёскай дымяцца снягі,
На лістку каляндарным — люты!
Без радні, з прадчуваннем тугі,
Я жыву, нібы восеньскі люцік!

## ПАСПРАБУЙ, АДКАЖЫ...

Колькі год лістападу, паспрабуй, адкажы!
Лістапад, лістапад — залатыя дажджы!
Сонца свеціць скупое, на апеньках смаўжы!
Колькі год лістападу, паспрабуй, адкажы!

Адзінокая зорка лье святло з вышыні
І самотна і горка на душы, на душы...
Ах, калючая сцежка, ах, высокі мой бор,
Запляліся бярозкі на прабор, на прабор!

Колькі год лістападу, я рукамі лаўлю,
Залатое лісцё, што ляціць на зямлю!
Так самотна, так горка на душы, на душы...
Колькі год лістападу, паспрабуй, адкажы!

* *

Прагалінай лясной імчаць алені!
Не разумею гэтую імклівасць.
Ляжыць галінка бэзу на каленях,
У ёй і адзінота, і маўклівасць.
Галінку зразумела я адразу,
Яна цвіла, нікога не чапала,
Не ведаючы, што ў пакоі ваза
Па кветках вельмі доўга сумавала.
Яе не шкадавалі, абламалі...
Наіўна думалі,— відаць, вада заменіць
Ёй тыя сокі, што з зямлі давала
Карэнне бэзу, што ў яе струменіць,
Як і раней, жыццё бясконца будзе!
Галінка пражыла ў пакоі мала,
Так ненадоўга выйшла яна ў людзі!

. . . . . . . . . .

Бязгрэшную галінку пакаралі
За тое, што была яна прыгожай!
Ў бярэзніку схаваліся алені,
І зноў у лесе сумна і маўкліва.
Глядзіць галінка ў свет з маіх каленяў
Ружовым вокам сумна і пужліва.

## ВЕРАСЫ

Верасы, верасы зацвілі на світанку,
Нібы слёзы, раскіданы кроплі расы.
Я па лесе блукаю ад самага ранку —
Пазбаўляюць спакою мяне верасы!
Вераснёвыя ночы празрыстыя, зорныя,
Цалiной урачыстай ляжаць паплавы,
І на хатах драўляных, як тыя дазорныя,
Перад шляхам далёкім не спяць журавы!
Верасы зацвілі! Сэрца радасцю поўніцца,
Мне б Радзіму цяпер Верасянкаю зваць!
Верасы, верасы у лясах, за ваколіцай
Сваёй квеценню бледна-ружовай гараць!

# ТРЫПЦІХ

*Памяці дзеда*

1

Якою халоднай была восень тая!
Дажджы дзень і ноч церушылі над гаем!
Дзядуля, прыбраўшы размытую гліну,
Калючую дзічку садзіў каля тыну.

Якою халоднай была восень тая!
На покуце свечка міргала «святая»!
Зайшлася ад плачу бабуліна хата,
Гасцей назбіралася надта багата.

Якою халоднай была восень тая!
Ляжала пад печчу бульба гнілая!
І стукала ў шыбу дзюбай слабою,
Клікала птушка дзеда з сабою
У вырай...

2

Калісьці на тваіх каленях
Праводзіла гадзіны седзьма.
Слухала — выбягалі алені,
Слухала — выплывала ведзьма
Аднекуль здалёку-здалёку...
Я засынала, і ў сне
Прыносіў мне бусел галёпу

На белым сваім крыле,
Прыносіў...

Цяпер тыя казкі здалёку
Плывуць у праменным святле!
Таксама прыносіць галёпу
Мне бусел на белым крыле.
Спрабую — салодкая пышка,
Дзяцінства ж маё саладзей,
Звычайная цацка і шышка
Хваёвая — столькі падзей
У дзяцінстве...

Далёка дзяцінства, далёка!
Прыедзеш, за вёскай стаіш.
Чарнее у летнюю спёку
Дзядулін парэпаны крыж.
Нядоўга шукаю сцяжынку,
Магіла травой парасла.
Прыходжу сюды на хвілінку —
Я ж на каленях расла
Дзядуліных.

3

Страх пракрычыць мне: «Глянь!»
Пугач за ракою вухне,
Белая, белая здань
Ціха у шыбу стукне —
Гэта дзядуля!

* *

Гуляй, вясновая паводка!
Віхурся, звонкая вада!
Бывай, зімовая паходка —
Прыспела весняя хада!

Агонь вачэй, настрой гуллівы,
Спакуслівы палон жыцця,
Дзе пеняцца, шумяць разлівы
Вады, паветра, пачуцця...

## БЕЛЫЯ СУНІЦЫ

Яшчэ суніцы не паспелі — белыя,
А ўжо каторы дзень па іх [redacted] бегаю!
Сама з сабою ціхенька жартую,
Мне на суніцы сёлета шанцуе!

Глядзіць услед суседка і дзівуе,
Дзяўчына штосьці вельмі ўжо мудруе.
Яшчэ суніцы не паспелі — белыя,
Яна ж каторы дзень па лесе бегае!

У кошыку маім ні ягадзінкі.
Даўно расталі вочы — дзве ільдзінкі.
Палаюць вусны спелаю суніцай,
Салодкі пацалунак ля крыніцы...

Яшчэ суніцы не паспелі — белыя,
А ўжо каторы дзень па іх я бегаю!

* *

Здалося мне — усё забыта
Лічыла я — усё прайшло!
І раптам побач, як адбітак,—
Ўсплывае твар твой праз акно.

І ўсё вярнулася аднекуль,
Шалёнай хваляй абдало.
А я так верыла дагэтуль,
Што ўсё мінулася, прайшло!

## ПЕРШАЯ НАВАЛЬНІЦА

Над Масквою навальніца першая,
Вельмі страшна, вельмі страшна,
верыш,— я!
Ціха стукаюся ў дзверы — адчыні,
Гром вуркоча і маланка — не гані!

Навальніца заціхае, добра як!
Кроплі ціхенька сцякаюць — абы-як!
Затуманілася шкліна — не відаць.
Хтосьці будзе за сцяною ноч гадаць:
Навальніца — навальніцай...
Штосьці ёсць!
У суседа, у суседа — ноччу госць!

* *

*Сябрам-аднагодкам прысвячаю...*

Шкада — дзяцінства стала снамі,
Далёкай казкай, небыццём!
Мы разышліся, але з намі
Жыве сяброўства пачуццё!
Нас клічуць сцежкі-пуцявіны,
У сэрцах мар бурліць паток.
Сябры, сабрацца мы павінны
У непарушны свой гурток!
О, колькі слоў ва мне раіцца
Пяшчотных, нібы плынь ракі!
Як рыба ў сетцы, буду біцца —
Захоўваць вобраз дарагі
Юнацтва і сяброў жаданых,
Былых пачуццяў цеплыню,
Да скону дзён — самааддана
Сяброўства несці чысціню!
Сябры мае, мінаюць тыдні!
Нам змена новая — ідзе!
Ўзрастае порсткі колас жытні
І нівай звонкаю гудзе!
І мы — калоссе гэтай нівы.
Ёй век шумець, ёй век рунець,
Таму усё жыццё павінны
Мы сэрцы маладыя мець!

* *

Пойдзем слухаць кнігавак
На лугі і выганы,
Па мяжы някошанай —
Грэбляй напраcткі,
Быццам зненароку
Месяц жвавы выглянуў
І паплыў па гладзі
Ясельды-ракі!
Туманы халодныя
Лашчацца, туляюцца,
Колюць ногі сіверам
Мята і чабор!
Я не з палахлівых,
Але тут губляюся —
Ночка вельмі зорная,
Боязна чагось!
Зоркі пасміхаюцца,
Зоркам вельмі весела,
Кнігаўкі спалохана
Клічуць нас за гаць.
Сядзем пад вярбінаю,
Што ґаллё развесіла,
Знічку пачакаем
Шчасце загадаць!
Знічка ўжо скацілася,

У траве згубілася,
І зара ў паўнеба
Ясная ўстае!
Ўстала і спынілася...
Пэўна, разгубілася...
Кнігаўка над лугам
Хораша пяе!

## МЯЦЕЛІЦА

Мяцеліца, мяцеліца
Шугае на двары!
Не верыцца, не верыцца —
Каханне да пары!

Дачаснае, няшчаснае,
Без веры, без цяпла,
Зімовае, лядовае —
Такое ўжо знайшла!

Якою завірухаю,
Якім халодным днём,
Уляцела белай мухаю,
Здалося мне агнём!

Сняжынкай непрыкметнаю
Кружылася, плыло
Такою не прыветнаю —
Кахання не было!

Ах, белая пушыначка,
Цябе не зберагла!
Так доўга ты кружылася
І ўсё-ткі ўцякла!

Слязінкаю скацілася
Гарачаю з вачэй,

Скацілася, разбілася,
А сэрцу не лягчэй!

Круці, гудзі, мяцеліца,
У полі, на двары...
Ўсё роўна мне не верыцца,
Што шчасце — да пары!..

# РАЗВІТАННЕ

Пазбавіўся спакою лес —
Ад рання музыка і спевы.
Стары, забыты паланез
Ў самотным танцы кружыць дрэвы!
Хтосьці пераблытаў і змяшаў
Мелодыю з лясным дыханнем
І цудадзейнічаць пачаў,
Свой твор назваўшы «Развітаннем»!
Жалобна водгукі плывуць,
Так толькі сэрца плакаць можа,
Калі яго не ў час крануць,
Калі яго не ў час трывожаць!
І не адрозніць шэпту траў
Ад слоў, спалоханых світаннем...

Тут хтось кахаў, тут хтось ствараў,—
Акорд апошні, развітальны!

* *

Не траць дарма свайго ты часу,
Пытанняў мне не задавай.
Не вер дабру і злу адразу
І рук няверных не кранай!

Яшчэ ўсяму ў жыцці навучаць,
Навошта ценем быць маім?
А што, калі ізноў разлучаць?!
Не бачыць шчасця нам двaім!

У лес бягу, імчу да мора...
Як супакоіць мне душу?
Ці здагадаўся ты, што з гора,
Так горда галаву нашу!

# ЗІМОВЫЯ НАСТРОІ

1

Дык запрасі ж мяне ты ў сані
І лейцы выпусці з рукі!
Няхай імчаць нас коні самі
Бялюткім берагам ракі!
Яны сягоння штосьці чуюць...
Не ў росных травах на лугах,
А ўпершыню ў жыцці начую
Я ў мяккіх студзеньскіх снягах!
Такая ноч! Такія зоры!
Звіняць бразготкі пад дугой,
Кахання дзіўныя узоры —
Паўночным ззяннем над ракой!
Ўдыхаю сена асалоду
І снег хапаю на ляту,
Казалі — не хадзі па лёдзе,
А я на самым на лядку!

2

Партрэт мне гэты нагадаў
Сукенку з пацеркай бліскучай.
Жаночы твар, уздых балючы
Партрэт мне гэты нагадаў.

Як і тады, была зіма,
Застольныя гучалі тосты,

І вочы гаварылі штосьці,
Як і тады, была зіма!

Пушысты снег і коней храп,
Званочкаў ціхі перазвон,
Здавалася ўсё гэта — сон,
Пушысты снег і коней храп!

Куды прапала тая ноч,
Карункавы, шаўковы вэлюм.
Пакойчык, нібы ў бэзе белым,
Куды прапала тая ноч!

3

Ах, што зрабіла ты, зіма!
Навошта многа абяцала!
Я верыла, [redacted] ты ўзяла
І бессаромна ашукала.

Мо ад таго праз белы снег
Я з ганарлівай галавою
Іду, забыўшыся на смех,
Аб шчасці гавару з табою.

* *

Няўжо ўсяму цяпер канец!
Таму, што дадзена,— не збыцца!
Чужыя коні пад вянец
Імчаць другіх, аж пыл курыцца.
Чужыя коні!
Любата!
Мяне таксі заўжды чакае,
Ах ты, дзявоцтва слепата,
Пачуцце полымем шугае!
Чакала... Думала... Аж не!
За ўсё слязы гарачай мала.

Між смехам цяжка уздыхнеш,
Сама сябе так абакрала.

* *

Сярод папер, сярод лістоў,
Сярод маіх штодзённых сноў
Тваё імя, твая рука,
Узнёсласць лёгкага радка.

Бяру аловак і пішу,
Жыццё былое варушу.
Як на экране — на сцяне
Твой плашч нібыта бачу ў сне!

Там за акном маім — ліхтар,
Адзіны сведка слёз і мар!
Ці ж я прызнаюся яму —
Пісаць ужо няма каму!

* *

Скакала па купінах, бегла па кладцы,
Да шчасця спяшалася, пэўна!
І раптам адна, на халоднай лаўцы,
І недзе спяваюць пеўні.
От ліха, патрэбна ж, прачнулася рана,
Што потым было б — невядома...
І крыжам здалася аконная рама
Майго зіхатлівага дома!

Пажалюся ветру я:
шчасце не хоча
Са мною ўжывацца болей.
З'яўляецца ў снах, на ўвесь голас
рагоча,
Да іншых спяшаецца полем.

* *

Будзе яблык салодкі і спелы,
Залаты будзе восеньскі звон.
Вось тады я у казачна-белым
Устрывожу ваш ранішні сон.

Працягну я гарачыя рукі,
Вас пяшчотай нязвыклай крану!
Так, напэўна, дзівосныя гукі
Абарваную лашчаць струну.

# ЛІРЫЧНЫ ЖАРТ

Ні біблія і ні каран
Не забароняць піць айран.
Насіць у сэрцы успамін
Мне аб вачах тваіх...
Амін!

Каменне-слёзы ўсіх марэн
Маёй слязой гараць, Карэн!
Не проста слёзы — успамін
Аб голасе тваім...
Амін!

Мяне не вабіць шум арэн,
Выносіць да цябе, Карэн,
Маіх пачуццяў цуда-плынь...
Амін!

Няўжо чароўны спеў сірэн,
Цябе прывабіць, мой Карэн,
Ліхая думка, лепей згінь!..
Амін!

## НЕВЯДОМАЕ

А можа, не было,
А можа, проста так!
Здалося і прайшло,
Як хмара і як птах,
Кудысьці ў вышыню
Ўзнялося — дагані!
Дагнаць я не магу,
Дык хоць рукой кранi.
Крануць я не магу,
Бо, можа, не было,
Бо, можа, проста так
Здалося і прайшло,
Ўзнялося быццам птах...
Дык хоць жа паглядзі,
У вочы зазірні!
Глядзець я не магу...
Лепш загадзя збягу,
Бо, веру, не было,
Бо, веру, проста так
Здалося і прайшло...
Махае крыллем птах,
Ды не дагнаць яго.

* *

Цябе не слухаць — немагчыма,
Ну, а згадзіцца не магу!
Праводжу сумнымі вачыма
І ад сябе хутчэй бягу.
Чаго баюся?
                    Зненароку
Занадта смела ты зірнуў?
Чакала крыўднага папроку,—
Надзею позірк твой вярнуў.
Ну, як злавацца, як баяцца,
Абходзіць бокам, старaной...
Не маю сілы больш хавацца
І цешыцца адной маной.
Цябе пабачу і даволі,
Ды ўсё часцей сябе лаўлю,
Што так і просяцца далоні
У руку гарачую тваю.

* *

Няхай гавораць людзі ля кіёскаў,
Што я ў палоне песенных забаў.
Што нада мной вясёлкавай палоскай
Сусед-мастак нябёсы распісаў.

Сяброўкі абсталёўваюць кватэры,
Я п'ю ў лясах на досвітку расу
І незалежна, з выглядам гетэры,
Чыёсьці сэрца ў кошыку нясу!

## СВІЦЯЗЯНСКІЯ ЗГАДКІ

Пярсцёнак свой кідаю у ваду.
Агеньчык сіні пагасілі хвалі.
На шчасце, можа, можа, на бяду
Яго на дне глыбокім пахавалі!
Гляджу я з лодкі плыткай у ваду,
Як у люстэрка зазіраю ў Свіцязь,
Магчыма, ўбачу, мабыць, тут знайду:
Каня вядзе мне незнаёмы віцязь...
Знайшоў пярсцёнак, галаву прыўзняў,
У хвалях вочы промнямі зайгралі,
Дзень дагараў...

З-пад ног плылі зялёныя лугі,
Зямля плыла, паветра не хапала.
Нямелі вусны, а ў вачах кругі
Абдымкамі смяротнымі сціскалі.
Шапталі вусны: любы, адпусці,
Аддай пярсцёнак, незнаёмы віцязь...
Два цені лёгкіх бачылі касцы,
Калі ішлі на досвітку паўз Свіцязь.

*

Не разумею сябе, бо не я!
Я, кажуць, змянілася, кажуць, не тая!

Такою халоднаю стала зямля,
А я і на холадзе таю!

Струменьчыкам ў Свіцязь буду цячы,
Звінець буду рэчкаю поўнай.
І ціхай жанчынаю выйду ўначы,
Абдымак...
Імгненне...
Поўня...

* *

Хлопчык у трамваі штось на шкліне
піша,
Хуценька выводзіць ён чыёсь імя!
На дажджы шапоча белая афіша,
Я б зайшлася песняй — голасу няма.
Знікнуў у тумане, у блакіце вечар,
Вечар, што калісьці жарам апаліў,
Музыка ўспамінаў абдымае плечы,
Песняй ціхай кліча ў летнія палі!
Там у шчодрых травах konікі спяваюць,
Белыя рамонкі паваражаць мне.
Над Масквою хмары дожджык абяцаюць,
Ліст пажоўклы стыне ў восеньскім віне.
Хутка мой прыпынак, хутка успаміны
Адплывуць далёка, за Зялёны дом...
Нават самалёты — чорныя дэльфіны,
Цягнуцца павольна на аэрадром.

* *

На ганак выйшла. Угары,
У цёмным небе зорка ззяла.
Сюды даходзіў пах кары...
А за спіною млела зала,
І дзверы тоненька рыпелі,
Цвыркун нібыта струны кратаў...
Туман над садам белы-белы
Аблокамі на травы падаў.

Крыштальныя звінелі люстры,
Шумела зала, як Парнас!
І бачылася ў простай хустцы
Сама Паэзія між нас!
Ішла павольна, ледзь ступала,
Нібыта па жывой рацэ,
І плыў за ёю цень Купалы
З жалейкай-дудачкай ў руцэ!

Ніхто не ўбачыў, не прыкмеціў —
Застолле смеху і дабра!
Спявалі яблыні і вецер,
І зорка — казачнае «бра»!

Стаю на ганку. Цень празрысты —
Узмах птушынага крыла!
Хусцінка — ветразь прамяністы,
Амаль, што побач праплыла!

## КАЛІ Я З СЯБРАМ...

Я не пытаюся: чакалі — не чакалі
Ў сваім маленькім, чысценькім пакоі.
Скажу наперад — каб не папракалі,
Прыйшла пазычыць цішыні, спакою.
Спакою на хвілінку, не на вечнасць!..
Прыемна пасядзець крыху ў зацішку,
Адчуць цяпло і вашу чалавечнасць,
Пагаварыць, пабыць хоць з вамі крышку.
Я адпачну, бо стомлена занадта,
А ваш пакоік ад турбот хавае,
У ім гучыць свавольная саната —
Яе мне вецер за акном спявае.
О, як тут ціха, дзіўныя малюнкі,
І строгія партрэты — ўсё ў маўчанні.
Ад мітусні шукала я ратунку —
Знайшла!
Не памагае!
У адчаі
Зноў сэрца пачынае маё біцца...

Спакой мне на хвілінку, не на вечнасць,
Якімі б ні былі цяпло і чалавечнасць.

ЗМЕСТ

На белорусском языке

Раиса Андреевна Боровикова

**Ромашковый берег**

Рэдактар Хв. М. Чэрня. Мастак В. П. Масцераў. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Н. І. Лебедзева.

АТ 04083. Здадзена ў набор 6/IX 1973 г. Падп. да друку 16/VII 1974 г. Тыраж 4000 экз. Фармат $60\times90^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,5. Ул.-выд. арк. 2,08. Зак. 445. Цана 20 кап.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.
Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю, Мінск, Чырвоная, 23.

**Баравікова Р. А.**

Б 24 Рамонкавы бераг. Вершы. Мн., «Маст. літ.», 1974. 80 с. (Першая кніга паэта).

Аўтар з цяплом і пранікнёнасцю піша аб роднай Беларусі, аб добрым праменным свеце чалавечых узаемаадносін, аб дружбе і каханні. Ураджанні юнацтва, роздум аб сэнсе жыцця, аб пошуках свайго месца ў ім робяць вершы Баравіковай цікавымі і запамінальнымі.

Б $\frac{70403\text{-}129}{М\ 302(05)\text{-}74}$ 71-74 Бел 2



Нарадзілася Раіса Баравікова ў 1947 годзе ў вёсцы Пешкі Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыла Бярозаўскую сярэднюю школу. Працавала ў Быхаўскай раённай газеце «Маяк Прыдняпроўя». У 1966 годзе паступіла ў Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве. Пасля заканчэння працавала на кінастудыі «Беларусьфільм», зараз — карэспандэнт газеты «Літаратура і мастацтва».

Раіса Баравікова пачала пісаць яшчэ ў школе. Вершы яе друкаваліся ў часопісах «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», «Работніца і сялянка», а таксама ў перыядычным друку. Вершам яе ўласціва філасофска-лірычнае вырашэнне тэмы. Цёпла гаворыць паэтэса пра родны край, славіць шчырае сяброўства і сапраўдную дружбу.

20 кап.